ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№26
(2532)

26 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

*СПАЧАТКУ ЯГО ПРЫЗНАЛІ ЗА РУБЯЖОМ*

## ТАЯМНІЧАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ ВІКТАРА ЦІХАНАВА



У галерэі "Мастацтва" Саюза мастакоў Беларусі адкрылася персанальная выстава маладога мастака Віктара Ціханава, які нарадзіўся за 15 кіламетраў ад Лёзна ў вёсцы Пукшына ў 1955 годзе. Менавіта пра гэтага мастака пойдзе размова.

Адразу неабходна працытаваць урывак з пастаянная запрашальнага білета галерэі "Мастацтва", якая так вызначыла мэту сваёй дзейнасці: "...Галерэя "Мастацтва" прадстаўляе персанальныя і калектыўныя выставы мастакоў, чыя творчасць ужо сёння з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай культуры беларускага народа". І гэта вызначэнне ўжо шмат гаворыць пра мастака Віктара Ціханава, жывапісны талент якога землякі заўважылі яшчэ ў раннім дзяцінстве,

З 7-мі гадоў Віктар навучаўся ў студыі выяўленчага мастацтва ў Віцебску, з 10-ці — у Рэспубліканскай школе па музыцы і выяўленчаму мастацтву ў Мінску, з 18-ці — у Беларускай акадэміі мастацтваў, якую скончыў у 1978 годзе. Яшчэ будучы студэнтам, ён стаў пастаянным удзельнікам рэспубліканскіх і замежных выстаў.

У 1983 годзе яго прынялі ў Саюз мастакоў СССР. Менавіта яму належыць заслуга адраджэння на Беларусі забытай сучаснымі мастакамі старажытнай тэхнікі разьбы па леўкашанаму фону ікон, якую ён паспяхова выкарыстаў, спалучаючы з жывапісам у сваіх першых карцінах, напісаных па ляўкасу, нанесенаму па драўлянай аснове, а не палатна — "Дзед Сцяпан", "Успаміны". Я па сённяшні дзень не толькі памятаю, але і бачу ў кадры кінафільмаў яго карціну "Слова пра Радзіму. Францыск Скарына" (1980), якая вельмі мяне ўразіла чулым і глыбокім пранікненнем маладога мастака не толькі ў вобраз Ф. Скарыны, але і ў шматгранную культуру Беларусі той эпохі, якую ён так гарманічна

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*ПОШУКІ, ВЕРСІІ*

## ПРА ВЕШЧЫХ ПЕСНЯРОЎ, ФАРТУНУ РАДЗІВІЛАЎ І САКРЭТЫ СТАРЫХ РАДАВОДАЎ

*Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму...*
**Я. Купала.**

Помню, як Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, нястомны рыцар і працаўнік Беларусі, вучоны энцыклапедычнага даравання, мудраму позірку якога, здаецца, было адкрыта ўсё да каліўка на зямлі і пад зямлёю, выказваў сваё захапленне тым, што даўнія карані Купалы і Коласа сыходзяцца, амаль пераплятаюцца на невялікім кавалку беларускай зямлі (верхняе Панямонне). Гэтая зямля ў самым сэрцы Беларусі, цікавая і ў геалагічных адносінах, належала колісь магнатам Радзівілам. Таму не дзіўна, што і радаводы нашых нацыянальных геніяў, жыццёвыя пуціны іх прадкаў маюць кропкі судакранання з радзівілаўскімі сямейнымі хронікамі. Яшчэ са школы або са спецыяльных даследаванняў ведаем: продкі Якуба Коласа — спрадвечныя ратаі-земляробы — былі да 1861 года прыгоннымі сялянамі князёў Радзівілаў, пазней бацька песняра служыў у Радзівілаў леснíком; як і іншыя палясоўшчыкі, насіў кукарду з княжацкім вензелем. "На шапках "R" было з каронай...", — чытаем у "Новай зямлі" (раздзел "Смерць ляснічага"). Так запомнілася Коласу з дзяцінства. Ды і ў архіўных дакументах ёсць поўны адпаведнік: "Знак из желтой меди, вызолоченный к фуражке с буквою R, а вверху с короною его сиятельства князя Радзивилла" ўваходзіў у лік абавязковых атрыбутаў кожнага лесніка. У "Новай зямлі" (раздзел "На першай гаспадарцы") ёсць згадка, што герою паэмы Міхалу (бацьку песняра) давялося і асабіста сустракацца з самім князем-ардынатам:

(Працяг на 6-й стар.).

**ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ**



**У залаты фонд народнага студэнцкага харэаграфічнага ансамбля "Віцябчанка" Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, які адзначыў сваё 30-годдзе, уваходзяць танцы розных краін і народаў. Выконваецца ўсё гэта з маладым натхненнем і сапраўдным майстэрствам.**

**НА ЗДЫМКУ: салістка ансамбля "Віцябчанка" студэнтка III курса Таццяна ДУК.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

**ГІСТОРЫЯ «АБСАЛЮТНА ФАНТАСТЫЧНАГА» ПЛАНА ГЕЙДРЫХА**

## «ЗМОВА» Ў ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

"Справа ваенных" — так назваў сусветны друк судовы працэс над военачальнікамі Чырвонай Арміі, што праходзіў у Маскве летам 1937 года, — мела трагічныя вынікі. Ажыццёўлены І. Сталіным і яго акружэннем масавыя рэпрэсіі ў арміі напярэдадні другой сусветнай вайны нанеслі вялікі ўрон Савецкім Узброеным Сілам, усёй абараназдольнасці савецкай дзяржавы.

Унутрыпалітычнае становішча ў краіне ў другой палове 30-х гадоў, абвастрэнне і расшырэнне рэпрэсій выклікалі ў І. Сталіна пэўныя апасенні ў адносінах пазіцы буйных военачальнікаў, аўтарытэт якіх у народзе і арміі быў вельмі высокі яшчэ з часу грамадзянскай вайны. Іх глыбокі прафесіяналізм, незалежнасць у меркаваннях, адкрытая крытыка вылучэнцаў І. Сталіна — К. Варашылава, С. Будзённага, Г. Куліка, Е. Шадэнкі і іншых, якія не разумелі неабходнасці стварэння сучаснай арміі, — выклікалі раздражненне, падазронасць і пэўныя апасенні, што армія можа правяць хістанні ў падтрымцы праводзімага ім курсу. Адсюль імкненне ўстараніць з арміі ўсіх, хто вагаўся, хто выклікаў у І. Сталіна і яго паплечнікаў хоць самыя малыя сумненні...

### НАПЯРЭДАДНІ

У адзін з снежаньскіх дзён 1936 года шэф германскай службы бяспекі (СД) Гейдрых быў выкліканы да Гітлера з чарговай разведвальнай зводкай па СССР. У адказ на раздражнёныя папрокі фюрэра, што разведка працуе ўсё яшчэ вяла, не аказвае патрэбнага ўплыву на развіццё палітычных падзей у свеце, для выгады "трэцяга рэйха", Гейдрых паведаміў, што маецца магчымасць паспрабаваць "абезгаловіць Чырвоную Армію", скампраметаваўшы групу яе вышэйшых афіцэраў, перш за ўсё маршала Тухачэўскага.

Звесткі аб нібыта наспяваючай здрадзе ў Чырвонай Арміі былі атрыманы СД ад былога генерала рускай царскай арміі Н. Скобліна, які жыў у Францыі.

Вярнуўшыся пасля размовы з Гітлерам у штаб-кватэру гестапа на Прынц-Альбрэхтштрасе, 8, Гейдрых запатрабаваў да сябе А. Науйокса,

(Працяг на 4-й стар.).

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АПАЗІЦЫЯ — ПРЭЗІДЭНТ*

## ПЕРШЫ РАУНД

**У Мінску завяршыўся першы раунд перагавораў паміж прадстаўнікамі Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і групай дэпутатаў распушчанага ў мінулым годзе Вярхоўнага Савета краіны. Ён праходзіў пры ўдзеле экспертаў змешанай рабочай групы Еўрапейскага саюза і Савета Еўропы.**

**На сустрэчы ўдалося дасягнуць кампрамісу адносна рэгламента далейшага перагаворнага працэсу і персанальнага прадстаўніцтва бакоў. У прыватнасці, ВС дэлегіруе за "круглы стол" дэпутатаў ад фракцый і групы незалежных парламентарыяў — усяго шэсць чалавек. Пяцёра з іх прадстаўляюць апазіцыю Прэзідэнта Беларусі, а адзін — прыхільнікаў Аляксандра Лукашэнкі.**

**Член Венецыянскай камісіі Савета Еўропы Мэцью Расел сказаў: "Людзі, з якімі мы вядзем размову, гэта, з аднаго боку, прадстаўнікі Прэзідэнта, а з другога, — група дэпутатаў, якія былі абраны ў састаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання і якія па-ранейшаму захоўваюць свае паўнамоцтвы".**

*ПА ПРАГРАМЕ "НАНА-ЛУГАРА"*



**На былой ракетнай базе ў Паставах Віцебскай вобласці адбылася цырымонія перадачы паслом ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенетам Яламіцам высокатэхналагічнага абсталявання коштам пяць мільёнаў долараў, прадастаўленага ЗША Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь у рамках праграмы "Нана-Лугара" для экалагічнага аднаўлення былых вайсковых аб'ектаў.**

**НА ЗДЫМКУ: тэхніка, прызначаная для рэкультывацыі забруджанай глебы.**

*ІНФЛЯЦЫЯ*

## МОЦНЫ АРЭШАК

**У Беларусі пакуль не ўдаецца спыніць інфляцыю. Калі за красавік яна склала 4,3 працэнта, то ўжо ў наступным месяцы — 5, а за першы тыдзень чэрвеня — 1,5 працэнта. Пры гэтым у маі значны яе рост адбыўся за кошт алкагольных напояў — 1,3 працэнта.**

**Падаражанне закранула амаль усе групы тавараў і паслуг, за якімі сочыць Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі. Павялічыліся цэны на мяса і мясапрадукты, соль, агародніну, электратавары, паслугі міжгародніх паяздоў. А ў ліку рэкардсменаў аказаліся буракі сталовыя, цукар, цыбуля рэпчатая, морква, цана на якія ўзрасла больш чым на 20 працэнтаў.**

**На ранейшым узроўні засталіся цэны на бульбу, вугаль, торфабрыкет, паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сувязі, дашкольных устаноў, гарадскога пасажырскага транспарту і прыгарадных паяздоў. На нейкую долю працэнта патаннелі маргарын сталовы, садавіна і плата за ацяпленне.**

*ІНДЭКС РАЗВІЦЦЯ*

## БЕЛАРУСЬ НА 62 МЕСЦЫ

**Выйшаў у свет Даклад аб развіцці чалавека за 1997 год. Ён быў замоўлены Праграмай развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ПРААН) і напісаны незалежнай групай вучоных і спецыялістаў у галіне развіцця — пад кіраўніцтвам Рычарда Джолі, спецыяльнага дарадцы Адміністратара ПРААН.**

**Як адзначаецца ў дакладзе, большая частка свету жыве ў адсталасці. Штодзённы ўзровень даходу амаль 1,3 мільярда чалавек на Зямлі складае менш як 1 долар ЗША. У рэспубліках былога Савецкага Саюза доля насельніцтва, якое жыве ніжэй рысы беднасці, узрасла з 4 мільёнаў чалавек у 1987—1988 гадах да 120 мільёнаў чалавек зараз. Гэта складае амаль трэць усяго насельніцтва рэгіёна.**

**Беларусь па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу (ІРЧП) аднесена аўтарамі даклада да групы краін з сярэднім узроўнем развіцця, у рэйтынгу па ІРЧП яна займае 62-ю пазіцыю (паміж Маўрыкіем і Белізам). Расійская Федэрацыя ў гэтым спісе са 175 дзяржаў — на 67-м месцы.**

*У МЗС БЕЛАРУСІ*

## ЛЁС ДЫПЛАМАТАЎ

**У Беларусі яшчэ не было практыкі пазбаўлення дыпламатычнага імунітэту работнікаў знешнепалітычнага ведамства толькі за тое, што яны пачалі спрачацца з паліцыяй дзяржавы знаходжання. Кіраўніцтва нашай краіны і ў далейшым не мае намеру гэтага рабіць. Так пракаменціраваў сітуацыю з супрацоўнікам пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН Юрыем Оранжам міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч.**

**Супрацоўнік пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН Юрый Оранж, на думку Івана Антановіча, не ўчыніў злачынства, якое можна было б па агульнаму папярэдняму аналізу класіфікаваць як крымінальнае.**

**Крыху іншая сітуацыя склалася з нашым дыпламатам у Францыі Уладзімірам Палупанавым, які папрасіў палітычнае прыстанішча ў гэтай краіне. Як паведаміў кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства, да цяперашняга часу просьба былога дыпламата французскімі ўладамі не задаволена. На думку Івана Антановіча, ніякіх падстаў у Палупанава для прынняцця гэтага рашэння не было. Міністр наогул лічыць яго выпадковым чалавекам у беларускім Міністэрстве замежных спраў.**

**У свой час Палупанаў падаў заяву аб звальненні з работы, пасля чаго ўсё, што з ім адбываецца, Іван Антановіч лічыць асабістай справай грамадзяніна Беларусі Палупанава. У той жа час, заявіў міністр, ніякіх перашкод для вяртання былога беларускага дыпламата дадому няма.**

*КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ*

## ПРА ІГНАТА ДАМЕЙКУ

**Чацвёртыя міжнародныя карэліцкія чытанні, прысвечаныя ўраджэнцу нашай краіны, нацыянальнаму герою Чылі, вучонаму, даследчыку, пісьменніку і падарожніку Ігнату Дамейку, прайшлі 14 чэрвеня. Яны былі арганізаваны Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францыска Скарыны і Карэліцкім райвыканкомам. Свае прывітанні ўдзельнікам чытанняў прыслалі Аніта Дамейка — унучка Ігната Дамейкі, якая жыве ў Чылі, яго пляменніца Эва Адахоўская і нашчадак Францыска Скарыны — Ежы Скарына, які жыве ў Мексіцы.**

**Адбылася прэзентацыя выдадзенай у Польшчы кнігі Збігнева Вуйціка "Ігнат Дамейка". Удзельнікі гэтага навуковага форуму на радзіме Дамейкі, у вёсцы Мядзвядка, сустрэліся з настаўнікамі мясцовай школы, якія ствараюць музей свайго славутага земляка.**

*С. ЛІНГ У РАЎБІЧАХ*



**"Няма сумненняў у тым, што міжнародны імідж Беларусі ў многім залежыць ад прадстаўніцтва яе спартсменаў на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы, іншых буйных спаборніцтвах, — сказаў прэм'ер-міністр рэспублікі Сяргей Лінг у час свайго наведвання спартыўнага комплексу "Раўбічы". — А таму і трэба для іх ствараць належныя ўмовы для актыўных і плённых трэніровак, забяспечваць іх навукова-метадычнай і тэхналагічнай інфармацыяй, сучаснымі методыкамі падрыхтоўкі".**

**НА ЗДЫМКУ: С. ЛІНГ у час наведвання спорткомплексу "Раўбічы".**

*ФЕМІДА*

## ПРЫГАВОР СЛАВАМІРУ АНТАНОВІЧУ

**Калегія Віцебскага абласнога суда пад старшынствам Леаніда Гурко вынесла прыгавор па справе паэта Славаміра Антановіча.**

**Суддзі палічылі яго вінаватым у напісанні і распаўсюджванні верша пад назвай "Забі прэзідэнта". Пры гэтым, аднак, яго дзеянні былі перакваліфікаваны з 67-га артыкула Крымінальнага кодэксу (заклік да тэрарыстычнага акта супраць вышэйшай службовай дзяржаўнай асобы) на артыкул 188 (абраза дзяржаўнай службовай асобы).**

**Акрамя таго, суд прызнаў С. Адамовіча вінаватым па артыкулах 15 і 80 КК — спроба пераходу дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і Літвой. С. Адамовічу вызначаны менавіта такі тэрмін пакарання, які паэт ужо адседзеў у следчым ізалятары; суддзі залічылі яго ў тэрмін пакарання.**

*ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ*



**Вось так поплеч і прайшлі па жыцці аж да свайго залатога вяселля Марыя і Антон Варанец з вёскі Гайнінец Ляхавіцкага раёна. Ведалі адно аднаго з дзяцінства. Усе пяцьдзесят гадоў, што былі разам, пражылі ў міры і згодзе, выгадавалі пяцёра дзяцей.**

**Павіншаваць былых калгасных трактарыста і палявода прыйшлі не толькі кіраўнікі мясцовых сельсавета і калгаса, але і работнікі Ляхавіцкага райвыканкома.**

*З ЧУЖЫХ СТАРОНАК*

## «НАС НЕПАКОІЦЬ ЛЁС ДАБРАЧЫННАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ»

**Беларускія аспіранты брытанскіх універсітэтаў звярнуліся з лістом у газету. У ім яны пішуць, што з паведамлення агенцтва Рэйтар даведаліся, што Беларускі фонд Сораса прыняў рашэнне аб спыненні сваёй дзейнасці. Гэта навіна, па словах нашых суайчыннікаў, вельмі ўстрывожыла іх. Вядома, што фонд Сораса патраціў больш як 13 мільёнаў долараў на дабрачынныя праграмы ў Беларусі, будучыня якіх цяпер пад пытаннем. "У прыватнасці, магчымасць атрымаць адукацыю ў Вялікабрытаніі ўжо, відаць, не будзе рэальнай для многіх маладых людзей Беларусі", — пішуць аспіранты Алег Чэрп, Дзяніс Крывашэеў, Надзея Лісоўская з Манчэстэрскага універсітэта, Алёна Лягкова, Глеб Прыймаў — з універсітэта Уорыка, Дзмітрый Леўшанкоў з Лонданскага універсітэта, Павел Шаўцоў з Оксфардскага універсітэта і Ігар Лужакоў з універсітэта г. Лідса.**

**Аспіранты выказваюць у лісце думку, што закрыццё фонду Сораса можа паўплываць на тое, што ад Беларусі адвернуцца і іншыя прыватныя фонды: МакАртураў, Форда, Карнегі, Мота, Джонса. Таму што толькі ў Беларусі падатковае заканадаўства не прадугледжвае льготы некамерцыйным арганізацыям.**

**У сваю чаргу, у лісце адзначаецца, што ў інтарэсах развіцця некамерцыйнага дабрачыннага сектара Беларусі, у інтарэсах яе грамадзян рознагалоссі паміж фондам Сораса і падатковай інспекцыяй павінны стаць прадметам адкрытага абмеркавання, а для вырашэння канфлікту маглі б быць прыцягнуты міжнародныя эксперты па некамерцыйных арганізацыях.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ПЕРШАЯ сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, што адбылася ў Брэсце, завяршылася гімнам былога СССР. Праўда, без слоў.

"АДНОСІНЫ Беларусі са Злучанымі Штатамі Амерыкі цяпер развіваюцца зусім нармальна", — заявіў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Іван Антановіч пасля сустрэчы ў Сінтры з дзяржсакратаром ЗША Мадлен Олбрайт.

ГЕНЕРАЛЬНЫ пракурор Рэспублікі Беларусь Алег Бажэлка назначаны прадстаўніком Рэспублікі Беларусь у Камісіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па папярэджанню злачынстваў і крымінальнаму правасуддзю.

РАШЭННЕМ урада Беларусі кожная сям'я з нізкім даходам, якая мае дзяцей, атрымае да пачатку навучальнага года па 700 тысяч рублёў на набыццё ўсяго неабходнага для школьніка.

НА МЯЖЫ Асіповіцкага і Клімавіцкага раёнаў на Магілёўшчыне створаны Нацыянальны парк. Плошча яго каля 70 гектараў.

ПА ВЫНІКАХ праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", які ўзначальвае вядомы грамадскі дзеяч Генадзь Грушавы, заведзена крымінальная справа. Старшыня фонду пакуль што на свабодзе.

У ГРОДЗЕНЦАЎ — свята. І не толькі з нагоды 870-годдзя горада, якое адзначаецца сёлета. У Гродне нарадзіўся 300-тысячны жыхар.

# ТАЯМНІЦЫ МОГІЛАК

***Тэма могілак аказалася самай непрыступнай і закрытай ад чужых вачэй з усіх, якімі даводзілася займацца за маё журналісцкае жыццё. Ветлівыя ўсмешкі, адгаворкі, агульныя фразы, насцярожаныя погляды... Нават самую бяскрыўдную інфармацыю тут захоўваюць мацней за дзяржаўныя тайны. Тым не менш, тое-сёе даведацца ўдалося.***

## ГОРАД МЁРТВЫХ У ГОРАДЗЕ ЖЫВЫХ

На сённяшні дзень у Мінску афіцыйна зарэгістравана 19 могілак. Некаторыя з іх зусім маленькія і займаюць, як напрыклад, Піянерскія, — 1,1 гектара. У былыя часы могілкі ствараліся на гарадскіх ускраінах, але горад паступова разрастаўся, і сёння яны сталі яго часткай. З іх дзеючых усяго двое: у Міханавічах і Калодзішчах. Ёсць так званыя паўзакрытыя — Усходнія (Маскоўскія) і Паўночныя могілкі. Як растлумачылі ў гарадскім упраўленні жыллёвай гаспадаркі, на паўзакрытых могілках, хаця месца там фактычна ўжо няма, па рашэнню ўрадавай камісіі і з дазволу гарвыканкома ў парадку выключэння робяцца пахаванні вядомых людзей. Хто ўваходзіць у лік гэтых "шчаслівцаў", часам вядома толькі кіраўніцтву саміх могілак. Практычна на ўсіх могілках горада дазволена падпахаванне ўрнаў з прахам да ўжо існуючых магіл сваякоў. На Усходніх могілках хутка будзе пабудавана калумбарная сцяна для пахавання ўрнаў з прахам.

Могілкі ў Мінску засяляюцца хутчэй, чым сам горад, і ўжо плануецца стварыць новыя пад Дзяржынскам. Яны будуць называцца Заходнімі і зоймуць 50 гектараў. Іх будаўніцтва абыдзецца прыкладна ў 70 мільярдаў рублёў у цэнах бягучага года. Пры гэтым могілкі будуць вельмі простымі, без усякіх празмернасцяў накшталт царквы ці капліцы для адпявання нябожчыкаў. Зямля пад могілкі сёння выдзяляецца ў такім жа парадку, як і пад любы іншы аб'ект, адзінае патрабаванне: яна не павінна ўваходзіць у водаахоўную зону.

Колькасць могілак, якія ў свой час у Мінску зраўнялі з зямлёй, уражвае ўяўленне. Польскія, што размяшчаліся за Палацам мастацтва, яўрэйскія, нямецкія, татарскія, старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак"... Старажылы маглі б яшчэ доўга працягваць гэты спіс. Сёння, у адпаведнасці з Законам аб зямлі, могілкі не зносяцца і, па сцвярджэнню афіцыйных асоб, зносіцца не будуць незалежна ад таго, колькі гадоў назад былі закрыты. Аднак на гэтым праблемы могілак толькі пачынаюцца.

## ГАЛГОФА ДЛЯ МЁРТВЫХ

Кальварыйскі касцёл пабудаваны на жменьцы зямлі, прывезенай у свой час са свяшчэннага для кожнага веруючага месца — Галгофы. Ды і сама гара, на якой распялі Спасіцеля, у католікаў называецца Кальварыя. Думка аб невыпадковасці гэтай назвы тут, у Мінску, міжволі прыходзіць у галаву, калі ідзеш па самых старых гарадскіх могілках. 40 гектараў зямлі, што знаходзяцца зусім не на ўскраіне горада, маюць на рэдкасць занядбаны, недагледжаны выгляд. Капліцы, у якіх праводзіўся абрад адпявання, некалі ўпрыгожаныя роспісамі і вітражамі, сёння ў плачэўным стане: там захоўваюцца венікі і дровы. На ўсіх могілках не засталося цэлай віньеткі, многія помнікі разбіты і павалены. Кальварыйскія могілкі, якія праіснавалі не адно стагоддзе, вельмі адчувальна пацярпелі ў перыяд будаўніцтва метро. Але зусім не гэта з'яўляецца галоўнай прычынай таго, што сёння яны сталі могілкамі не толькі для людзей, але і для помнікаў. У многім вінаваты старыя вялікія дрэвы, якія, падаючы, выварочваюць і без таго старыя надмагільнікі. Аднак не адны дрэвы таму віной. На Кальварыйскіх могілках хуліганамі было выверну́та і часткова разбурана 11 помнікаў, невядомымі асобамі павалена 6 надмагільнікаў, менш чым праз месяц пасля гэтага ўсё тымі ж невядомымі асобамі было павалена і пашкоджана 42 надмагільныя помнікі. Прыхаджане касцёла цвёрда перакананы, што ўсё гэта зрабілі сатаністы, хаця хутчэй за ўсё гэта справа рук мясцовых падлеткаў, якія адурэлі ад гультайства і гарэлкі. Вечарам у касцёле не праводзіцца служба, таму што людзі баяцца туды ісці. На Кальварыю да гэтага часу не падведзена электрычнасць, а ахоўваць парадак на цёмных могілках не згаджаюцца ні веруючыя, ні атэісты.



Многія вясковыя могілкі выглядаюць так, як гэта, у вёсцы Харомцы Акцябрскага раёна: не агароджаны, зараслі травой і кустоўем, магілы ніхто не даглядае. Зусім закінутымі выглядаюць старыя надмагільныя помнікі з мармуру, на якіх, дарэчы, вельмі выразна выпісаны імёны пахаваных. Глухая наша памяць да продкаў сваіх, да тых, хто жыў да нас на гэтай зямлі.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.



Дзікае злачынства было ўчынена на Віцебскіх яўрэйскіх могілках: разбурана 14 помнікаў. На жаль, тут і раней бывалі падобныя выпадкі: многія віцебскія могілкі сёння не ахоўваюцца, а органы ўнутраных спраў за апошнія дзесяць гадоў не раскрылі ніводнага факта вандалізму.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

Узнікае справядлівае пытанне, а як жа закон, які ў тэорыі не павінен залежаць ад пасад ці настрояў чыноўнікаў. Але справа ў тым, што закона аб могілках, які традыцыйна рэгулюе адносіны жывых з памяццю аб памёршых ва ўсім свеце, у нас проста не існуе. Больш таго, афіцыйныя асобы, з якімі наконт гэтага давялося гаварыць, пераконвалі мяне, што нам ён увогуле не патрэбны. Закон аб зямлі ахоўвае могілкі ад зносу, артыкул за апаганьванне магіл — надмагільнікі ад разбурэння, а ўсё разам ахоўвае Закон аб ахове помнікаў. Тым не менш, на практыцы атрымліваецца, што на Кальварыі законам ахоўваюцца толькі прызнаныя гістарычнымі помнікамі брама і касцёл, што ж тычыцца надмагільных помнікаў, то, мяркуючы па ўсім, на ахоўваемай законам зямлі нарэшце застануцца руіны з перакошанымі крыжамі і разбітымі помнікамі. Больш таго, аказалася, што на Кальварыі ўвогуле не існуе спісаў пахаваных там людзей... І не трэба думаць, што сітуацыя на Кальварыі унікальная. На могілках пастаянна крадуць гранітныя і мармуровыя пліты, валяць надмагільнікі і здымаюць бронзавае ліццё. Усе гэтыя злачынствы за рэдкім выключэннем застаюцца беспакаранымі, злачынцы, як правіла, не знаходзяцца. У той жа час сумы, патрачаныя на аднаўленчыя работы на могілках, вялікія, а ўсе затраты, у якія, дарэчы, уваходзіць мноства каштоўных будаўнічых матэрыялаў, пакрываюцца з бюджэту горада.

## ГАРЫ, ГАРЫ, МАЯ ЗОРКА...

Сусветны вопыт пахавання нябожчыкаў уражвае фантазіяй. Чаго толькі людзі ні рабілі са сваімі мёртвымі! У Сіцыліі да пачатку мінулага стагоддзя знатнага нябожчыка бальзаміравалі і падвешвалі за шыю ў фамільным склепе, зораастрыйцы пакідалі труп дзе-небудзь у пустыні, лічачы, што птушкі і звяры паклапоцяцца пра яго лепш, чым людзі. У наш час капсулы з прахам выводзяць на каляземную арбіту, а нядаўна з'явілася паведамленне, што будыйскія манахі стварылі ў Інтэрнеце мемарыяльныя калумбарыі. Перапрабаваўшы ўсю гэтую экзотыку, чалавецтва спынілася на двух асноўных спосабах расставання са сваімі нябожчыкамі: крэмацыі (адданне агню) і інгумацыі (пахаванне ў зямлі). Штогод на нашай планеце паміраюць звыш 50 мільёнаў чалавек, у ЗША сёння налічваецца звыш 100 тысяч могілак, усяго ж на Зямлі ўжо больш за 10 мільёнаў. Пазбаўленне ад мёртвых ператварылася для жывых у сур'ёзную праблему.

Крэмацыю многія лічаць найбольш практычным і экалагічным відам пахавання. Па прагнозах спецыялістаў, да 2010 года яна складзе 60 працэнтаў ад усіх форм пахавання. Адносіны да яе ў народа па-ранейшаму неадназначныя, асноўныя аргументы "за" — эканомія на дарагім помніку і магчымасць падзахаваць да ўжо пахаваных сваякоў. Асноўным аргументам "супраць" да нядаўняга часу было тое, што спальваць цела — неяк не па-хрысціянску. Аднак два гады назад праваслаўная царква, ідучы ў нагу з часам, адмяніла забарону на крэмацыю, афіцыйна заявіўшы, што яна не супярэчыць царкоўным канонам. Тым не менш, крэмацыя — праблема не толькі рэлігійна-псіхалагічная. Справа ў тым, што пры гарэнні арганікі вылучаецца вялікая колькасць шкодных рэчываў і ядаў, у прыватнасці, надзвычай ядавітыя дыяксіны, вядомыя тым, што ўплываюць на генафонд чалавецтва. Дадайце сюды цеплавое забруджванне і выкіды вуглекіслага газу, і крэмацыя перастане здавацца вам такім ужо бясшкодным і экалагічна чыстым відам утылізацыі трупаў.

Крэмацыя тоіць у сабе і яшчэ адну небяспеку, аб якой наўрад ці задумваюцца людзі, атрымліваючы ўрну з прахам. Справа ў тым, што колькасць біямасы на Зямлі — велічыня пастаянная, і, спальваючы арганіку, чалавек выводзіць яе з існуючага стагоддзямі абароту. І хто ведае, чым абернецца гэтая "дробязь" у планетарным маштабе праз некалькі стагоддзяў.

Мінскі крэматорый пабудаваны па чэшскаму праекту, але з існуючых печаў працуюць усяго дзве. У выніку таго, што на поўную магутнасць працуе толькі адна лінія, у суткі крэміруецца толькі 10 целаў. Гавораць, што хутка тут будзе праведзена рэканструкцыя, пасля якой прапускная здольнасць крэматорыя павялічыцца ў паўтара раза, але аб тым, калі гэта будзе, а таксама калі ў апошні раз тут мяняліся фільтры, яснага адказу не даў ніхто. Дарэчы, калі сам будынак крэматорыя спраектаваны вельмі нядрэнна, то пабудаваныя пазней калумбарыі ў поўнай адпаведнасці з духам часу нагадваюць шэрагі камерцыйных кіёскаў.

## МАГІЛА ШМАТРАЗОВАГА КАРЫСТАННЯ

Вялікія могілкавыя масівы па 60—70 гектараў, якімі ўшчыльную акружаны Мінск, ва ўсім цывілізаваным свеце ўжо даўно лічацца недаравальнай раскошай. Дзевятнаццаць могілак на горад, а ў праекце — адкрыццё новых... І гэта ў той час, калі ва ўсім свеце могілкі арганізаваны, як ідэальны біяканвертэр, плошча якога не павялічваецца стагоддзямі.

На Захадзе глебу пад могілкі пачынаюць рыхтаваць за некалькі гадоў да першага пахавання. Калі вы помніце, адзіная ўмова, што прад'яўляецца ў нас да адводзімай пад могілкі тэрыторыі: яна не павінна ўваходзіць у водаахоўную зону. На Захадзе патрабаванняў крыху больш. Глеба павінна быць пераважна пясчаная, грунтавыя воды павінны залягаць не вышэй двух метраў, паблізу не павінна быць дарог, балот, рэк. Прымаецца да ўвагі рэльеф і ружа вятроў. Зямлю засяваюць пэўнымі сартамі траў, у ЗША туды запускаюць выведзенага метадам геннай інжынерыі спецыяльнага каліфарнійскага чарвяка, які рэзка паскарае працэс разлажэння арганікі. У Англіі вынайдзены спецыяльны раствор, каталізатар біяпрацэсаў, які запампоўваюць у глебу могілак, скарачаючы працэс распаду да пяці гадоў. Пад зямлёй пракладваюць дрэнажныя трубы, каб у будучыні трупны яд не трапіў у грунтавыя воды. На могілках павінен быць буйназярністы грунт, таму што для нармальнага працэсу распаду ў магілу павінен паступаць кісларод. Вось тут так і прыходзяць на памяць нашы могілкі, усе суцэльна пастаўленыя на глiністых месцах з павышанай вільготнасцю і няроўным рэльефам. Месцы зімніх пахаванняў вясной выглядаюць так, быццам нехта зп'яна наўмысна зварочваў крыжы і разбураў магілы. І на новых, і на старых могілках ёсць месцы, куды да самага лета не прайсці нават у гумовых ботах. Усё гэта ўяўляе відавочную санітарна-эпідэміялагічную небяспеку, не кажучы ўжо аб тым, што тленне ў такіх умовах зацягваецца на няпэўна доўгі час.

Пры правільнай арганізацыі могілак праз пэўны тэрмін магілу можна выкарыстаць для новых пахаванняў, як гэта робіцца ва ўсім свеце, як здаўна рабілася на Русі, як да гэтага часу робіцца, напрыклад, на славутых у Маскве Ваганькаўскіх могілках, дзе пахаванні праводзяцца з 1696 года. З гэтага часу там, на плошчы 49 гектараў, пахавана больш за паўмільёна чалавек. Да сёння кожны год там хаваюць больш трох тысяч памёршых, па самых агульных падліках, кожная магіла выкарыстоўвалася ўжо па пяць разоў. Тым, каго бянтэжыць маральна-этычны аспект, рэкамендую прагуляцца па мінскіх могілках і прыгледзецца, колькі ж там запушчаных, нічыйных магіл. Паверце, што многа. Між тым, на нашых могілках паўторныя пахаванні забаронены санэпідэмстанцыяй, і мы працягваем аддаваць пад могілкі ўсё новыя і новыя ўчасткі зямлі. І хто сёння ў стане ажыццявіць кантроль за тым, ці не робяцца гэтыя самыя паўторныя пахаванні ў абыход забароны, складаючы, такім чынам, сур'ёзны артыкул "левых" даходаў?

Дарэчы, у выпадку, калі санэпідэмстанцыя дазволіць паўторныя пахаванні, запусценне, адсутнасць спісаў памёршых і разбурэнне на Кальварыйскіх могілках адразу становяцца некаму вельмі выгаднымі: сорак гектараў зямлі могілак нядалёка ад цэнтра горада, на якой можна зноў хаваць, дорага каштуюць...

Адзіны і лагічны вывад, які прыходзіць у галаву пасля азнаямлення з бачнай часткай жыцця пасля смерці, відавочны: дзіўна было б разлічваць на нармальныя адносіны да мёртвых у краіне, дзе няма ніякай справы да жывых. З такім раўнадушшам да сваіх памёршых грамадства адносіцца толькі ў часы эпідэмій ці глабальных войнаў. Не задумваючыся пра будучыню, мы акружаем сябе ўсё новымі і новымі могілкамі, на якіх хутка будзе страшна не толькі жывым, але і мёртвым.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# «ЗМОВА» Ў ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

кіраўніка падраздзялення, што займалася вырабам фальшывых дакументаў, і ў агульных рысах раскрыў сутнасць задумы. Пісьмо, як заявіў Гейдрых, напіша Беранс, а гравёр выведзе пад ім подпіс Тухачэўскага. Тэкст з усёй пэўнасцю пацвердзіць, што сам маршал і той-сёй з яго калег у Чырвонай Арміі знаходзяцца ў тайнай сувязі з нейкай групай нямецкіх генералаў — праціўнікаў фашысцкага рэжыму і што тыя і другія задумваюць захапіць уладу ў сваіх краінах. Дасье з фотакопіямі дакументаў, што выкрадзены нібыта з архіваў СД, будзе перададзена рускім, у якіх павінна скласціся ўражанне, што ў адносінах замешаных у гэтай справе нямецкіх генералаў пачата расследаванне.

Меркавалася, што сфабрыкаванае дасье будзе заключаць у сабе некалькі пісем, данясенняў, а таксама службовых запісак супрацоўніка, які займаўся расследаваннем сувязей прадстаўнікоў нямецкага штаба вярхоўнага галоўнакамандавання і Чырвонай Арміі, зводкі тайна падслуханых тэлефонных размоў. Асноўным у наборы фальшывак павінна было быць "асабістае пісьмо Тухачэўскага, у якім быў намёк на папярэднюю перапіску". У дакументах, што адносяцца да рознага часу, будуць упамінацца прозвішчы прыхільнікаў Тухачэўскага сярод савецкіх военачальнікаў, а таксама звязаных з імі нямецкіх генералаў, апазіцыйнасць якіх у адносінах да нацысцкай партыі не можна было ўжо цярпець.

Так пачалася работа па падрыхтоўцы грандыёзнай палітычнай падробкі. Усё рабілася ў самай строгай тайне. У СД была арганізавана спецыяльная аператыўная група. Узначальваў яе Беранс.

Неўзабаве Гейдрыху было зноў прадстаўлена дасье, і, прагледзеўшы яго, ён адзначыў, што "пісьмо Тухачэўскага" складзена ў стылі, вельмі характэрным для маршала, выканана на адпаведнай паперы — з рускімі вадзянымі знакамі. Злева на палях меліся паметкі апоўкам, "што яшчэ больш яўна сведчылі аб віне Тухачэўскага, чым сам тэкст пісьма". У "дакументах" утрымліваліся ўпамінанні аб ранейшых гутарках і перапісцы і "ясныя намёкі на тое, што Чырвоная Армія і вермахт былі б непараўнальна мацнейшымі, калі б ім удалося вызваліцца ад цяжкай партыйнай бюракратыі, якая гняце іх".

Дасье было прадстаўлена Гітлеру. Перагортваючы яго, фюрэр палічыў план аперацыі "ў цэлым лагічным, хаця і абсалютна фантастычным".

У канцы студзеня — пачатку лютага 1937 года (гэта пацвердзіць пазней тагачасны прэзідэнт Чэхаславацкай рэспублікі Эдуард Бенеш) чэхаславацкі пасланнік у Берліне Мастны інфармаваў свой урад аб чарговай размове з нямецкім дыпламатам, які ўпарта дабіваўся адказу на пытанне, як павядзе сябе Прага ў выпадку вайны паміж Германіяй і Францыяй. Жадаючы, відавочна, папалохаць чэхаславацкі ўрад, нямецкі дыпламат "сакрэтна" намякнуў, што група генералаў вермахта развівае кантакты з нейкай уплывовай групоўкай у Чырвонай Арміі і ёсць падставы думаць, што ў бліжэйшы час у СССР адбудзецца змена кіраўніцтва, якая абавязкова пацягне за сабой змяненне расстаноўкі сіл у Еўропе на карысць нацысцкай Германіі. Вопытны Гейдрых вырашыў прадубліраваць свой манеўр. Выкарыстоўваючы агентурныя падыходы, што меліся ў СД сярод рускай эміграцыі да ўрадавых колаў Францыі, Гейдрых дабіўся, каб аналагічная інфармацыя дайшла да вушэй ваеннага міністра Эдуарда Даладзье. Апошні, сур'ёзна занепакоены магчымасцю крутога павароту ў палітычным курсе Масквы, звярнуўся да кіраўніка савецкага пасольства ў Парыжы па тлумачэнні, у якой меры можна верыць чуткам аб падазроных сувязях паміж нямецкім вермахтам і камандаваннем Чырвонай Арміі. Пра тое, што падобная дэзінфармацыя сапраўды распаўсюдзілася ў Парыжы, сведчыць тэлеграма тагачаснага паппрэда СССР у Францыі В. Пацёмкіна ў наркамат замежных спраў і рассакрэчаная ў 1989 годзе ў ліку іншых дакументаў, што тычацца "справы Тухачэўскага": "Даладзье запрасіў вашага паўпрэда для гутаркі, у ходзе якой сказаў, што з надзейнай крыніцы ім стала вядома аб планах германскіх колаў ажыццявіць дзяржаўны пераварот у СССР. Як мяркуецца, апорай павінны служыць асобы з каманднага саставу Чырвонай Арміі, якія варожа настроены да кіраўнікоў краіны. Германія мае намер заключыць з новым рэжымам ваенны саюз, накіраваны супраць Францыі. Даладзье спасылаецца на тое, што такога ж роду звесткі атрыманы французскімі ваеннымі коламі ў рускіх эмігрантаў. Ён папярэдзіў, што больш канкрэтных звестак не мае".

Лічачы, што манеўр удаўся і мэта дасягнута, Гейдрых пачаў завяршаючы этап аперацыі: ён накіраваў адказнага супрацоўніка СД у Прагу з заданнем увайсці ў кантакт з кім-небудзь з асобаў, што блізка стаялі да Бенеша, і давесці да яго інфармацыю аб існаванні дакументаў, якія выкрывалі Тухачэўскага ў дачыненні да змовы. "Бенеш неадкладна паведаміў усё, пра што яму стала вядома, Сталіну", — піша У. Чэрчыль у сваіх успамінах. Неўзабаве пасрэднік Бенеша прапанаваў прадстаўніку Гейдрыха звязацца з супрацоўнікам савецкага паўпрэдства ў Берліне. Супрацоўнік адразу ж вылецеў у СССР і вярнуўся са спецыяльным кур'ерам, які меў паўнамоцтвы весці перагаворы аб выкупе фотакопій матэрыялаў дасье. Названая сума ўзнагароджання ў памеры 500 тысяч марак была неадкладна заплачана. Фотакопіі дакументаў, што нібыта захоўваліся ў сейфе гітлераўскай службы бяспекі, перакачавалі ў Маскву.

Безумоўна, не падлог нацыстаў выклікаў "чыстку" і разгул рэпрэсій у афіцэрскім корпусе Чырвонай Арміі. Да таго моманту арышты сярод военачальнікаў прынялі ўжо шырокія маштабы. І сфабрыкаваныя нацыстамі матэрыялы паслужылі зручнай "падставай" для абвінавачвання ў "змове" і "здрадзе" вышэйшага каманднага саставу Чырвонай Арміі. Брудная фашысцкая авантура толькі паскорыць надыход ракавой развязкі ў трагічным лёсе Міхаіла Тухачэўскага.

## РАЗВЯЗКА

Іх было васьмёра: маршал Савецкага Саюза М. Тухачэўскі, камандармы І рангу І. Убарэвіч і І. Якір, камандарм 2 рангу А. Корк, камкоры В. Прымакоў, В. Путна, Е. Фельдман і Р. Эйдэман. Усе яны — актыўныя ўдзельнікі грамадзянскай вайны, вядомыя камандзіры Чырвонай Арміі, адзначаныя высокімі ўзнагародамі. Ім было прад'яўлена жудаснае абвінавачанне ў здрадзе Радзіме, шпіянажы, шкодніцтве...

Першымі з іх былі арыштаваны камкоры Прымакоў і Путна. Абодвум было прад'яўлена абвінавачанне ў прыналежнасці да баявой групы трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыйнай арганізацыі. На пяты дзень пасля арышту, 25 жніўня 1936 года, Путна заявіў, што ўдзельнікам гэтай арганізацыі не з'яўляецца і аб яе дзейнасці яму нічога невядома. Гэта зафіксавана ў пратаколе допыту, але замест подпісу Путны ідзе дзіўная прыпіска, зробленая ім уласнаручна: "Адказы ў гэтым пратаколе запісаны з маіх слоў правільна, але я прашу вызваліць мяне ад неабходнасці падпісваць гэты пратакол, таму што зафіксаванае ў ім адмаўленне майго ўдзелу ў дзейнасці зіноўеўска-трацкісцкай арганізацыі не адпавядае рэчаіснасці".

На наступным допыце, які адбыўся 31 жніўня, і на вочнай стаўцы з Радэкам 23 верасня Путна прызнае, што значыцца ў арганізацыі яшчэ з 1926 года, што, будучы ваенным аташэ ў Германіі і Англіі, сустракаўся з сынам Троцкага — Сядовым, ад якога атрымліваў даручэнні Троцкага — арганізаваць тэрарыстычныя акты супраць Сталіна і Варашылава.

У справе Прымакова зафіксавана, што ён да самага мая 1937 года, на працягу 9 месяцаў, катэгарычна адмаўляў сваю датычнасць да змовы. На допыце 10—11 верасня 1936 года прызнаў толькі, што са сваімі старымі сябрамі вёў размовы, якія "насілі характар трацкісцкага паклёпу на Варашылава, але ніякіх тэрарыстычных размоў не было. Былі размовы аб тым, што ЦК сам убачыць непрыгоднасць Варашылава..."

Але ўжо 8 мая 1937 года ён піша Яжову: "На працягу 9 месяцаў я адмаўляўся перад следствам па справе аб трацкісцкай контррэвалюцыйнай арганізацыі і ў гэтым адмаўленні дайшоў да такога нахабства, што нават на Палітбюро, перад таварышам Сталіным працягваў упірацца і ўсяляк змяншаць сваю віну.

Таварыш Сталін правільна сказаў, што "Прымакоў — баязлівец, упірацца ў такой справе — гэта баязлівасць". Сапраўды, з майго боку гэта была баязлівасць і лжывы сорам за падман. Гэтым заяўляю, што, вярнуўшыся з Японіі ў 1930 годзе, я... пачаў трацкісцкую работу, аб якой дам следству поўнае паказанне..."

На допыце 21 мая, адказваючы на пытанне, хто ўзначальваў змову, сказаў:

— Якір і Тухачэўскі... Ад Якіра я чуў адмоўныя водгукі аб калектывізацыі. І заўсёды пад выглядам жартаў... Восенню 1934 года я асабіста назіраў прамую трывалую сувязь (?) Тухачэўскага з удзельнікамі змовы Фельдманам, Яфімавым, Коркам, Гекерам, Гаркавым, Разынкам, Казанскім, Альшанскім, Туроўскім. Гэтая група і ёсць асноўны актыў змовы.

Усе шасцёра астатніх абвінавачаных з гэтай трагічнай групы былі арыштаваны з невялікімі інтэрваламі на працягу другой паловы мая 1937 года. Калі верыць следству, Корк, Фельдман і Эйдэман прызналіся на першых жа допытах. Якір і Убарэвіч некаторы час супраціўляліся.

30 мая Якіра дапытваў сам Яжоў. І 31-га ў 21 гадзіну Якір напісаў на імя Яжова: "Я не магу больш утойваць сваю злачынную антысавецкую дзейнасць і прызнаю сябе вінаватым... Віна мая велізарная, і я не маю ніякага права на паблажкі". 1 чэрвеня на 22 аркушах Якір уласнаручна піша прызнанне і раскаянне. Называе шмат саўдзельнікаў змовы. Затым яго дапытваюць 3, 5, 7 чэрвеня. 9 чэрвеня яму прад'яўляюць пад распіску абвінаваўчае заключэнне. А 10 чэрвеня ён піша вялікае — старонак на 30 машынапісу — уласнаручнае пісьмо на імя Яжова і заканчвае яго так: "Я быў у вельмі добрых адносінах з вялікай колькасцю камандзіраў і палітработнікаў... Баюся, каб на гэтых адносінах не пабудавалі на месцах абвінавачвання і не стварылі становішча недаверу". Вось тут Якір, што называецца, як у ваду глядзеў: пасля суда над ім і яго таварышамі па няшчасцю ў сувязі са справай "ваенна-фашысцкай змовы" было рэпрэсіравана (і ў далейшым рэабілітавана) 108 кіруючых работнікаў арміі і флоту.

Убарэвіч быў крыху больш стрыманым. Пісьмо Яжову, прадугледжанае, відаць, сцэнарыем следства, ён таксама напісаў. Прызнаўся, што палітыку калектывізацыі лічыў няправільнай і спачуваў правым; што дзейнасць Варашылава, як і ўсе змоўшчыкі, не адабраў; што асабіста ўцягнуў у змову 12 чалавек і, акрамя таго, разлічваў у рэалізацыі сваіх планаў паражэння Чырвонай Арміі на іншых, незнаёмых са змовай...

У следчай справе Фельдмана ляжыць запісаны яго рукой і, відаць, прадыктаваны яму план патрэбных следству паказанняў ва ўласнаручным пераказе абвінавачваемых. У ім 14 пунктаў: 13 — "пра сябе" і 14-ты — "пра людзей": каго я асабіста ведаў; з кім падтрымліваў непасрэдную сувязь; пра каго ведаў з размоў з іншымі; каго асабіста хацеў вербаваць, але не выканаў гэтага па ўзнікшых абставінах і г. д. Больш скупа на гэтыя езуіцкія пытанні адказваў Убарэвіч.

Калі верыць пратаколам, то ўсё следства па такой цяжкай справе, што тоіць у сабе смяротны прыгавор, ішло без сучка і задзірынкі, цякло, як па маслу: пытанне — адказ. Толькі зрэдку следчы вельмі карэктна напамінае: "Вы гаворыце не ўсю праўду". І тут жа падследчы выдае яшчэ некалькі старонак выкрывальнага і самабічавальнага тэксту.

## МАРШАЛ

Тухачэўскага арыштавалі 22 мая ў Куйбышаве, куды ён толькі што прыбыў з Масквы на пасаду камандуючага войскамі Прыволжскай ваеннай акругі. Пры вобыску былі забраны ордэны, маўзер, ружжо, сем шашак, стэрэатруба, бінокль. І адразу пасля гэтага ў справе ідзе ўласнаручная заява Тухачэўскага, адрасаваная капітану джяржбяспекі Ушакову: "Мне былі дадзены вочныя стаўкі з Прымаковым, Путна і Фельдманам, якія абвінавачваюць мяне як кіраўніка антысавецкай ваенна-трацкісцкай змовы. Прашу прадставіць мне яшчэ пару паказанняў іншых удзельнікаў гэтай змовы, якія таксама абвінавачваюць мяне. Абавязваюся даць чыстасардэчныя паказанні без усякага ўтойвання чаго-небудзь са сваёй віны ў гэтай справе, а таксама з віны іншых асоб змовы".

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

(Заканчэнне будзе).

*ВЫДАДЗЕНА Ў ВАРШАВЕ*

## ПРА СЛОНІМСКІХ СТРАЛКОЎ




У канцы мінулага года ў Варшаве выйшла з друку арыгінальная кніга "79 pp Strzelcow Slonimskich". Так, сапраўды, да верасня 1939 года ў Слоніме дыслацыраваліся два польскія палкі, гэта 79-ты і 80-ты. Дарэчы, у адным з іх служыў і беларускі вайсковы дзеяч і гісторык Францішак Кушаль — муж паэткі Наталлі Арсенневай. Пра 79-ты пяхотны полк слонімскіх стралкоў імя гетмана Льва Сапегі і напісана гэтая кніга.

Гісторыя палка пачынаецца з 1918 года. Першыя баі полк правёў супраць нямецкіх аддзелаў "Ober — Ost", а закончыў у 1939 годзе. За дваццаць адзін год свайго існавання полк страціў 1 300 сваіх воінаў, а раненых было ў два разы больш. Некаторыя былыя слонімскія стралкі жывуць і зараз у розных краінах свету. У Польшчы нават створана гістарычнае таварыства салдат 79-га Слонімскага палка. Дзякуючы ім, і пабачыла свет гэтае выданне.

У кнізе шмат фотаздымкаў беларускіх гарадоў пачатку нашага стагоддзя. Тут ёсць здымкі Слоніма, Барысава, Мінска, фатаздымкі камандзіраў палка, спісы воінаў і г. д.

Вялікую працу ў напісанне і выданне кнігі ўклаў былы слонімец, а цяпер жыхар Польшчы гісторык Тадэвуш Сасіньскі.

Чытаючы кнігу "79 pp Strzelcow Slonimskich", я думаў, што нам, беларусам, ёсць у каго павучыцца, бо беларуская вайсковая гісторыя ў нас амаль не даследаваная.

ПРАЗ 58 ГАДОЎ

## НОВАЯ ГАЗЕТА Ў СЛОНІМЕ

У старажытным горадзе над Шчарай выйшаў у свет першы нумар незалежнай "Газеты слонімскай". Дакладней будзе сказаць, што газета аднавіла сваё існаванне праз 58 гадоў. Упершыню з такой назваю, толькі па-польску, газета выйшла ў Слоніме 25 снежня 1938 года. Гэты тыднёвік пісаў пра грамадска-гаспадарчае і культурнае жыццё горада. Друкаваўся ён да верасня 1939 года. Усяго тады пабачыла свет каля трыццаці нумароў.

Рэдактарам і выдаўцом "Gazety Slonimskiej" была Людміла Новік. Газета пазбягала палітычных тэм. Прапагандавала мясцовы патрыятызм, акцэнтуючы гістарычную веліч Слоніма. Галоўная адметнасць выдання была ў тым, што газета імкнулася даваць аб'ектыўную і аператыўную інфармацыю пра жыццё горада і павета, да мінімуму зводзіла рэдакцыйныя каментарыі.

Менавіта такога накірунку будзе прытрымлівацца і "Газета слонімская". Акрамя гэтага, на яе старонках будзе шырока апавядацца пра жыццё і дзейнасць слонімцаў у свеце. Друкавацца яна будзе на беларускай і рускай мовах. Рэдактарам і выдаўцом выдання з'яўляецца журналіст Віктар Валадашчук.

Новая газета ў Слоніме запрашае да супрацоўніцтва ўсіх былых слонімцаў Беларусі і свету. А іх, як вядома, шмат. Пісаць на адрас:

**231800, Беларусь, г. Слонім-2: а/с 5.**

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

ТАПАНІМІКА

# ПАМЯТАЙ ІМЯ СВАЁ

Ні адна геаграфічная назва не ўзнікае сама па сабе, яна служыць людзям, цесна звязана з жыццём і дзейнасцю чалавека і нясе разнастайную інфармацыю: аб узнікненні паселішча, аб прыроднай з'яве, гістарычнай падзеі, якая адбывалася ў данай мясцовасці, аб мінулым і сучасным жыцці насельніцтва. Тапонімы раскажуць пра занятак нашых продкаў, межы рассялення старажытных і сучасных народаў, іх рух, пра шматвяковую гісторыю народа, яго культуру, звычаі, сувязі з іншымі краінамі.

А колькі ж назваў на Зямлі? Якое іх паходжанне ў нашых мясцінах? Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні можа хіба толькі тапаніміка — навука, якая вывучае гісторыю, паходжанне, словаўтварэнне і правапіс назваў гарадоў, вёсак, паселішчаў, гор, рэк, азёр, урочышчаў і іншых геаграфічных аб'ектаў.

Сваё мінулае ёсць у кожнага горада, вёскі, ракі і г. д. Многія з іх носяць назвы плямёнаў і народаў па месцы іх пражывання: скіфы, аланы, англы, саксы, юты. Назвы народаў на картах сярэднявечча вымаўляюцца не сугучна з сучаснай назвай народа і мясцовасці. Напрыклад: галандская зямля, якую лёгка вызначыць, а вось свіцкая зямля, гэта значыць Швецкая, адразу ўсвядоміць няпроста.

Гісторыя пакінула сваю легенду (і магчыма, не адну) аб узнікненні і назве нашага горада. І здарылася гэта таму, што сапраўдная яго назва сугучная з пяшчотным жаночым імем. І ўсё ж адна з легенд сведчыць, што ў князя была дачка-прыгажуня і імя ў яе было Ліда. Князь хацеў выдаць дачку за пажылога нялюбага ёй чалавека. І ў роспачы прыгажуня не знайшла іншага выйсця, як падняцца на самы высокі ўчастак Замкавай сцяны і кінуцца ў бездань. Маўляў, таму і горад, і рачулка названы яе імем. На самай справе назва горада і ракі маюць балтыйскае паходжанне: "лідзімас" — вырубка, блізкая да тэрміна "ляда", або "лідзіс" — бег, цячэнне.

Ужо на пачатку ўтварэння СССР на тэрыторыі нашай рэспублікі, як і ўсяго Савецкага Саюза, пачалося перайменаванне населеных пунктаў. Кіраўнікі дзяржавы, якія лічылі сябе самымі "сціплымі" людзьмі, пачалі перайменоўваць спачатку невялікія заштатныя гарады, а потым узяліся і за буйныя губернскія, г. зн. абласныя цэнтры. На нашай шматпакутнай беларускай зямлі не было засведчана ніводнага з "сямі цудаў свету". Але было шмат іншых духоўных і гістарычных каштоўнасцей, да якіх мы і нашы продкі ставіліся абыякава (і перш за ўсё да тапанімікі). Хто толькі не мяняў назвы нашай Зямлі! Напачатку заўзята паклапацілася Рэч Паспалітая, якая ставіла сваёй мэтай апалячыць беларусаў. Такія перайменаванні тычацца, у першую чаргу, тапонімаў Брэст, Гродна, Навагрудак, Белагруда на Лідчыне і інш.

Не шанавала нашу тапаніміку і Расія, да якой былі далучаны землі Беларусі ў XVIII стагоддзі. Заносячы на геаграфічныя карты, у даведнікі назвы населеных пунктаў Беларусі, іх наўмысна замянялі зусім блізкімі па сэнсе рускімі словамі.

Каб зганьбіць годнасць беларуса, некаторыя назвы населеных пунктаў так перараблялі, што яны станавіліся немілагучнымі ці набывалі зневажальны для іх жыхароў характар. Мабыць, па рэкамендацыі багацеяў і чыноўнікаў Прапошаск стаў Прапойскам (цяпер Слаўгарад), у Баранавіцкім раёне — Дурневічы (цяпер Лугавая).

Але здзейсненае ўладарамі Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што ўчынілі на нашай зямлі ідэолагі савецкай дзяржавы. Першымі ахвярамі паслякастрычніцкаг а перыяду сталі вёскі Раманава (1918 год), што ў Горацкім раёне, і Раманава (1921 год) Слуцкага раёна. Яны атрымалі назву — Леніна. Такі ж лёс напаткаў тапонімы Радзівілавічы Лельчыцкага раёна і Койданава — абодва сталі Дзяржынскамі, адпаведна ў 1931 і 1932 гадах. За перыяд з 1918-га па 1930 год на тэрыторыі рэспублікі было перайменавана восем населеных пунктаў. Самымі "дзіўнымі" з іх можна лічыць перайменаванні ў гонар М. Калініна вёсак Пясчаная Чачэрскага раёна, Сямёнаўка Буда-Кашалёўскага раёна і Цесна Уздзенскага раёна. Відавочна, здарылася так таму, што Калінін неаднаразова бываў у гэтых мясцінах, ды трэба ўлічыць пажаданні саміх грамадзян гэтых вёсак.

Але найбольш значныя "патрасенні" нашай тапанімікі адбыліся ў 1938—1939, 1964 гадах. Падлік пайшоў ужо на многія дзесяткі ў перадваенны час і на некалькі соцень у 1964 годзе.

А ці задумваліся вы аб паходжанні назваў свайго раёна, сельскага савета? Толькі ў сваім Лідскім раёне я налічыў больш трохсот айконімаў (назваў паселішчаў). Аналізуючы іх вымаўленне і словаўтварэнне, можна рабіць высновы аб гістарычным мінулым раёна. Абсалютная большасць айконімаў раёна паходзіць ад імён і прозвішчаў, і, напэўна, названы яны так таму, што перш тут пасяліўся нехта Роўба, Серафім, Сцеркаў, Ямант, Бакун або быў найбольш паважаны сярод вяскоўцаў: Раўбы, Серафіны, Тарнова, Шайбакі, Сангайлы, Яманты і г. д. Шмат назваў сугучныя з назвамі раслін і жывёл: Грушэўнік, Воўкаўцы, Чаплічы, Осава, Бабоўцы, Лазяны, Пацукі, Жучкі і многія іншыя. Гісторыя Лідчыны адлюстравана ў айконімах паходжання (балтыйскага): Цвермы, Цвербуты, Буцілы — у перакладзе азначае жыллё, ізба, Ваверка — расліна, Вераніка, але блізкая да яе і аснова з сэнсавым значэннем "ткачы". Вангі — супаставімая з літоўскай асновай лянівы, непаваротлівы, Голдава — паходзіць ад балцкай асновы слоў ачышчаць, церабіць, Гуды — аснова гуд — беларус, балтыйскага паходжання.

Нямала ў нас айконімаў-арыенціраў: Заполле, Парачаны, Зарачаны, Парэчча, Далёкія, Дакудава. У аснове некаторых назваў захавалася аснова прыродных ландшафтаў: Бердаўка — узгорак, горб, узвышэнне, Табала — старажытны ландшафтны тэрмін (сухое месца паміж двума азёрамі), Гасцілаўцы — паходзіць ад асновы гаць, гаціць дарогу праз балота, Беліца — невялікае мохавае балота, нарэшце Белагруда — белая града ўжо ў польскай асіміляцыі. Ад Рэчы Паспалітай застаўся лідчанам айконім Харужаўцы, невялікая вёсачка, паходзіць ад слова харужы — невысокая вайсковая пасада ў польскай арміі, раней яшчэ азначала сцяганосец.

Расія таксама не засталася ў даўгу. Захавалася, хоць і не афіцыйная, назва аднаго з мікрараёнаў горада Слабада — тып паселішча ў феадальнай Расіі, а таксама вёскі Дворышча, засценак Бельскія.

Некаторыя назвы захавалі памяць аб асобных промыслах і рамёствах, якія тут існавалі: Ганчары, Такары, Кавалі, Гута, Паперня. Яшчэ ў XVI—XVII стагоддзях у Паперні быў наладжаны саматужны выраб паперы. Назва Гута зменена ў раёне, але менавіта тут, спачатку ў Старой Гуце, а затым у Новай Гуце — цяпер у горадзе Бярозаўка, больш ста гадоў таму быў наладжаны выраб шкла. Аб тым, што наш раён размешчаны амаль у цэнтры вобласці, на скрыжаванні чыгуначных і шасейных дарог, вядома кожнаму з нас, а вось што ў мінулыя часы тут пралягалі гандлёвыя шляхі, сведчыць назва вёскі Мыто, што азначае месца, дзе бралі мыт (пошліну) за правоз тавараў. Неаднаразова сустракаем як на Лідчыне, так і ў беларускай тапаніміцы наогул назвы некаторых этнічных груп насельніцтва, якія даўно тут не існуюць: Крывічы, Татарцы, Дайнава, а таксама і сацыяльных груп: Баяры Смалоцкія, Баяры Дзікушскія. А вось у аснове айконіма Біскупцы, які таксама ёсць на Лідчыне, выкарыстана беларуская форма ад назвы духоўнай асобы — епіскап.

На шчасце, Лідчыну абышоў тапанімічны "перетрус" шасцідзесятых гадоў, за выключэннем вёскі Кабыльнікі, якую перайменавалі ў вёску Крыніцы, ды і здарылася гэта яшчэ ў той час, калі вёска знаходзілася ў падпарадкаванні Воранаўскага раёна. Але ж і вечнага нічога не бывае. Так і ў тапаніміцы адбываецца натуральны працэс знікнення часткі паселішчаў, зліцця некалькіх у адно або ўзнікненне новых населеных пунктаў. І тут немагчыма нейкімі надзвычайнымі дэкрэтамі "закансерваваць" тапаніміку. Натуральна, можна зразумець знікненне айконімаў у чарнобыльскай зоне, з'яўленне новых паселішчаў, звязаных з распрацоўкай карысных выкапняў, з будаўніцтвам новых фабрык і заводаў, перасяленнем людзей з забруджанай зоны на новае месца.

Як бачым, тапанімічныя назвы з'явіліся не сёння. У іх зашыфравана не толькі геаграфія краіны, але і яе гісторыя. На прыкладзе Лідскага раёна добра відаць, што многія з айконімаў узніклі ў той час, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі яшчэ балцкія і часткова фіна-угорскія народы. Потым тут з'явіліся славяне: палякі, рускія, што давалі прыродным з'явам і мясцінам свае найменні. Гэты працэс імёнаўтварэння прадаўжаецца і цяпер.

**Міхаіл БУЛАЙ.**

г. Ліда.

*У ЖЫРОВІЦКІМ МАНАСТЫРЫ*





**У кожнай зямлі свае святыні. Жыровіцкі манастыр, што ў Слонімскім раёне, для Беларусі тое ж, што Троіца-Сергіева Лаўра — для Расіі, Кіева-Пячэрская — для Украіны. Тут знаходзяцца старадаўні манастыр і ў ім старажытная цудатворная святыня — Жыровіцкі абраз Божай Маці. Са шматлікіх ікон Багародзіцы Жыровіцкая з'яўляецца самай маленькай — памерам з дзіцячую далонь. З'яўленне яе адносіцца да XV стагоддзя.**

**Апошняе дзесяцігоддзе стала для Жыровіцкага манастыра гадамі адраджэння. Тут узнавіла сваю дзейнасць духоўная семінарыя, дзе рыхтуюць праваслаўных святароў не толькі для Беларусі, але і для Прыбалтыкі, Малдавіі, многіх рэгіёнаў Расіі. З гэтага года тут жа пачала працаваць і духоўная акадэмія.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае Жыровіцкі манастыр; семінарысты, будучыя праваслаўныя святары Аляксандр ВЕРАМЕЙ, Ігар ЗЫШУК і Канстанцін КАПЫЛОЎ. Усе яны — нядаўнія выпускнікі брэсцкіх школ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# РУДАБЕЛЬСКІЯ ЛАТЫШЫ

Пры пошуках архіўных матэрыялаў па гісторыі Лунінеччыны я выпадкова знайшоў цікавыя гістарычныя звесткі аб Акцябрскім (Рудабельскім) раёне Гомельскай вобласці.

Як вядома, на тэрыторыі гэтага раёна жывуць людзі латышскай нацыянальнасці. Як латышы апынуліся на Рудабельшчыне, як даўно яны тут жывуць?

На жаль, знойдзеныя звесткі вельмі скупыя, маюць агульны, а не канкрэтны характар. Запісаны гэтыя даныя, відаць, былі на пачатку нашага стагоддзя. Магчыма, чыноўнік, які запісаў іх, не ведаў аб рудабельскіх латышах нічога.

Запіс гаварыў аб тым, што некалькі дзесяткаў латышскіх сямействаў з'явілася на Рудабельшчыне ў другой палове мінулага стагоддзя пасля адмены ў 1861 годзе ў Расійскай імперыі прыгоннага права. У прыбалтыйскіх рэгіёнах у той час не хапала зямельных надзелаў (зямлю можна было купіць, але на кожны мог гэта зрабіць). І хоць узровень жыцця на радзіме быў крыху вышэйшы, чым на Палессі, многія латышскія сяляне з надзеяй скіроўвалі свае позіркі на палескія прасторы. Мяркуючы па рэестравых звестках, у той час на Рудабельшчыну пераехала 41 латышская сям'я. Мясцовыя паны вызначылі для перасяленцаў невялікі ўчастак Рудабельскай воласці (дзе сёння знаходзяцца вёскі Булкаў і Залессе). Працавітыя перасяленцы выкарчавалі лес, кустоўе, балотны хмызняк, пракапалі канавы для адводу вады, пабудавалі дыхтоўныя дамы.

Карэнныя жыхары прынялі перасяленцаў добразычліва, дапамагалі асвойваць новыя мясціны, наладжваць жыццё. Палешукі заўсёды знаходзілі агульную мову з новымі суседзямі і, чым маглі, дапамагалі, бо бачылі ў латышах такіх жа абяздоленых і простых людзей, якімі былі самі. Таму не выпадкова і беларусы, і латышы апынуліся ў адным страі ў гады суровых выпрабаванняў.

Чытаю скупыя архіўныя радкі, якія расказваюць аб далейшым лёсе невялікай дыяспары латышоў на Палессі.

"Гарадоцкае руска-латышскае вучылішча наведваюць 14 хлопчыкаў і 13 дзяўчынак. Выкладчык Карл Янавіч Трэйзін. Скончыў Прыбалтыйскую настаўніцкую семінарыю. Веры лютэранскай, на гэта пасадзе з 18 верасня 1880 года".

Даты пад гэтым запісам няма, як і няма ўказанняў на паходжанне слова "Гарадоцкае". Што гэта азначае? Няма на Рудабельшчыне паселішча з назвай Гарадок. На сённяшні дзень у Акцябрскім раёне ёсць толькі адна вёска з падобнай назвай — Мікуль-Гарадок. Але гэта вёска размешана даволі далёка ад былых латышскіх паселішчаў. Можа быў у межах пасялення латышоў нейкі населены пункт з назвай Гарадок? І калі была ў ім школа, то паселішча было даволі вялікае. Дык дзе ж яно сёння? А можа, і была такая вёска, у якой жылі латышы, але, як і вёскі Кольбік, Вецер, была спалена фашысцкімі акупантамі і не адноўлена пасля вайны.

А вось яшчэ адно ўпамінанне аб латышскай школе. Адносіцца яно да 1906 навучальнага года. Тады ў вучылішчы займалася 24 хлопчыкі і 13 дзяўчынак. Вучыў іх усё той жа К. Трэйзін, якому "было пакладзена гадавое жалаванне 300 рублёў".

А цяпер эпізод з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Ён з хронікі баявых аперацый, якія вялі партызаны 123-й партызанскай брыгады супраць фашыстаў. Зімой 1943 года ў баях з гітлераўцамі загінуў малады латыш-партызан, ураджэнец Акцябрскага раёна, Карл Марцінсон. Памятаюць у раёне партызан братоў-латышоў Фрыдрыха і Рыгора Вінтэршанаў, братоў Анса і Аляксандра Зауэраў і многіх іншых супляменнікаў, якія пакінулі пасля сябе добрую памяць.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ТАЯМНІЧАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ ВІКТАРА ЦІХАНАВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

адлюстраваў, падаўшы жывапісны вобраз усходнеславянскага першадрукара на фоне арнаментальна-расліннага рэльефу — характэрнай прыкметы беларускага жывапісу той пары.

За гады вучобы ён паспяхова вывучыў беларускую культуру мінулых эпох, яе багатую спадчыну і, як сапраўдны сын сваёй Айчыны, прысвяціў шмат жывапісных работ яе дзеячам: "Песня-ўспамін. Мікола Гусоўскі", "Вянок жыцця. Максім Багдановіч", трыпціхі "Сейбіты" і "Вяртанне", "Спадчына", "Мой родны кут... Якуб Колас", "Ля вытокаў. В. Дунін-Марцінкевіч і С. Манюшка" і інш.



У гэтыя ж гады Віктар стварыў шмат твораў манументальнага жывапісу, працуючы ў тэхніках фрэскі па сырой тынкоўцы, вітража і мазаікі. І так атрымалася, што ў Беларусі В. Ціханаў больш вядомы як мастак-манументаліст, які пакінуў свае творы ў архітэктуры Мінска, Брэста, Маладзечна, Віцебска і інш.

Між тым яшчэ са студэнцкіх гадоў Віктар адчуў цікавасць да пейзажнага жанру. Выконваючы эцюдныя замалёўкі прыроды з натуры, ён імкнуўся да дакладнага адлюстравання ўбачанага. Гэта цікавасць да пейзажу і атрыманы ў Акадэміі мастацтваў высокі прафесіянальны ўзровень і вопыт вельмі спатрэбіліся яму пазней, калі ў пачатку 90-х гадоў Віктар вярнуўся да гэтага жанру, які цяпер стаў асноўным у яго творчасці. За гэтыя гады Віктар Ціханаў сфарміраваўся як выключны пейзажыст. У 1933 годзе ён павёз свае пейзажы ў Іспанію, дзе ў яго з поспехам прайшло 6 персанальных выстаў на працягу 1993—1995 гадоў. А ў Беларусі яго першая выстава адбылася толькі ў 1995 годзе. Так атрымалася, што талент беларускага пейзажыста Віктара Ціханава спачатку прызналі за межамі рэспублікі.

Такім чынам, з пачатку 90-х гадоў мастак цалкам змяніў сваё мастакоўскае рэнаме, стварыўшы ўласную жывапісную стылістыку і сваю каларыстыку, якія прыдаюць яго пейзажам своеасаблівую пазнавальнасць як непаўторных "ціханаўскіх пейзажаў" услед за знакамітымі пазнаваемымі пейзажамі В. Бяльніцкага-Бірулі. Дамагчыся такой пазнавальнасці арыгінальнай стылістыкі і каларыту дадзена прыродай не ўсім мастакам. Яго пейзажы — гэта абагульнены, а не рэальны вобраз прыроды, напісаны з натуры, ад якой ён цяпер ужо незалежны. Былое пільнае вывучанне і шматкратнае эцюднае ўвасабленне з натуры стану прыроды паўночнай часткі Беларусі — роднай Віцебшчыны — у розную пару года і час сутак пазней сталіся асновай для стварэння сваіх "уласных", г.зн створаных фантазійным уяўленнем пейзажаў, якія глядач успрымае як напісаныя ім з натуры. Сам мастак так вызначае сваё крэда ў гэты час: "Здаецца, пасля доўгіх пошукаў знайшоў пуцяводную зорку. Бог прыадчыніў мне таямнічую заслону космасу, дапамог глыбей адчуць пульс і подых роднай беларускай прыроды. Як велічная мазаіка, сатканая з сонечных промняў, фарбаў, рухаў, колераў, яна для мяне невычэрпная крыніца сюжэтаў. Работа над пейзажам захапляе мяне цалкам, і зараз у мяне адно жаданне — ствараць, фіксуючы на палатне тыя пачуцці, якія ўзнікаюць, калі сутыкаешся нават з самым простым матывам прыроды".

Мастак увогуле не піша панарамна-прасторавых пейзажаў. Віктара вабяць асобныя, можна сказаць, "інтымныя" і непрыкметныя, але ўтульныя мясціны прыроды (хмызняк на тарфяніках, маленькія паляны і вузенькія рачулкі сярод балоцістых берагоў, лісце, што плыве па вадзе), і ўсё гэта асветленае яркімі сонечнымі промнямі. Але яны не былі б так прывабныя для гледача, калі б мастак не ўнёс у гэтыя пейзажы пранізваючае лісце і траву сонечнае святло і вецер, сваю любоў да гэтай сціплай прыроды. Менавіта "ціханаўскае" разуменне і адлюстраванне на палатне трапяткіх блікаў сонца, подыхаў вецярка ці магутнага ветру, як у пейзажы "Ветраны дзень", ператвараюць яго пейзажы ў карціны, напоўненыя настроем і любоўна ўтворанай ім ірыяльнай прыгажосцю амаль рэальнай, але ледзь-ледзь іншай прыроды. Замілаваўшыся яе прыгажосцю, ён стварае "свае карціны роднага краю", укладваючы ў іх свае пачуцці і сваё разуменне яе прыгажосці. Пры гэтым ён выкарыстоўвае па-свойму стылізаваныя і дакладна вывераныя для кожнай кампазіцыі мазкі-лісце і разнастайныя па памеру і масе плямы-блікі святла то ярка-жоўтыя на зыходзе дня — "Вечар", то бялёсыя ў зімовую пару — "Першы снег", то зялёна-белыя — "Светлы дзень", то блакітна-белыя ў пейзажах пад назвай "Цячэнне" і "Зіма на Браслаўшчыне".

Ну а як Віктар піша "вецер і вецярок, шапаценне лістоты, журчанне вады, сонечныя промні" — гэта яго мастакоўская таямніца... Важна, што мы іх адчуваем, гледзячы на яго карціны. І дасягае Ціханаў такой выразнасці колеру і святла, стану прыроды і часу сутак вельмі эканомнымі каларыстычнымі сродкамі. Ён ужывае толькі гаму зялёных, жоўтых, белых і блакітных колераў.

Дарэчы будзе прывесці вызначэнне пейзажаў Ціханава іспанскім мастацтвазнаўцам з галерэі "Multiple akte" горада Гранада Хаакіна Кабера Перэса: "Калі Віктар Ціханаў пачынае сваю працу з аголеным палатном, узнікае магічны запал, які, дзякуючы фібрам інтымнасці, вопыту магутнай традыцыі, веданню сваёй справы, аблягчае дакладнае паяўленне на палатне плям, у якія ператвараюцца пачуцці. Хутка цуд зменьвае "нішто", ператвараючы яго ва "ўсё", з'яўляюцца выявы і ствараецца рэальная імітацыя, якая адпавядае задуме, формы запаўняюць пустату, дамагаючыся цудаў жывапісу.



Пошук ідэй на працягу многіх эпох з'яўляўся мэтай, якой аддавалі ўсе свае сілы і пачуцці многія мастакі. Для Віктара Ціханава ідэал вызначаецца інтэрпрэтацыяй прыродных форм і паэтычным адлюстраваннем сваіх думак і інтуіцыі. Заўжды сутыкаючыся з рэальнасцю, Віктар атрымлівае дастатковы энергетычны запал, каб раскрыць для сябе тайну, якой з'яўляецца рэальнасць. Таму неабходна прызнаць, што ў яго жывапісе вышэй уражанняў стаіць адказ на стымулы, прапанаваныя Прыродай і рэальнасцю, вытокамі гэтага хвалюючага працэсу, якому садзейнічае ўяўленне і чуласць. У гэтым няспынным пошуку вялікае значэнне мае набліжэнне да традыцыі і, канешне, любоў, якая ўзнікае, калі мастак сутыкаецца з усім, што яго акаляе, зліваючыся з ім".

Творы В. Ціханава знаходзяцца ў Мастацкім музеі Беларусі, Мастацкім фондзе Саюза мастакоў, Міністэрстве культуры, у чатырох музеях Іспаніі і ў прыватных калекцыях ЗША, Польшчы, Швецыі, Германіі, Ізраіля, Італіі, Японіі, Францыі.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы В. ЦІХАНАВА: "Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць" і "Зімовыя цені".**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ХТО З «СЯБРЫНКАЙ» ПАСЯБРУЕ?

Кажуць, паэтамі нараджаюцца. І гэта на самай справе так. Калі чалавек не мае таленту, наўрад ці можа ён напісаць нешта значнае, вартае ўвагі. Разам з тым нельга забываць, што нярэдка трэба шмат часу, каб талент раскрыўся. Пацвярджэнне таму — творчы лёс У. Мацвеенкі.

Уладзімір Іванавіч — чалавек ужо немаладога ўзросту. Мінчанін, нарадзіўся ў рабочай сям'і ў 1928 годзе. Да вайны паспеў скончыць пяць класаў сярэдняй школы. А потым — фашысцкая акупацыя. Бацька памёр, давялося разам з маці і братам жыць, бы той гарох пры дарозе. Кожны гатовы скубнуць. Сямігодку У. Мацвеенка скончыў у 1946 годзе і адразу паступіў у Мінскі палітэхнікум. З 1948 па 1951 год служыў у арміі, потым працаваў рэтушорам-травільшчыкам, старшым інжынерам на прыборабудаўнічым заводзе ў Мінску і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні Мінскага медыцынскага вучылішча, якое скончыў у 1956 годзе, набыўшы прафесію зубнога тэхніка. Цяпер У. Мацвеенка з'яўляецца тэхнікам-артадонтам Мінскай абласной стаматалагічнай паліклінікі.

Як быццам прафесія далёкая ад літаратуры, тым больш паэзіі. Так меркаваў і Уладзімір Іванавіч. Ажно да 1973 года вагаўся — брацца за пяро ці не... І ўсё ж рашыўся. А пачаў з сатыры і гумару. Вершаваныя гумарэскі, карацелькі У. Мацвеенкі былі прыхільна сустрэты і ў рэдакцыях, і чытачамі. Акрылены поспехам, пачаў пісаць і для дзяцей. І менавіта ў гэтым кірунку дасягнуў найбольшага поспеху. Творы У. Мацвеенкі рэгулярна публікуюцца ў часопісах "Бярозка", "Пралеска", "Вясёлка" і іншых выданнях. Выйшаў шэраг кніг: "Загадкі Зайкі-загадайкі", "Загаданачка", "Сябрынка", "Азбука ў загадках".

Апошняя з'вілася ў "Бібліятэцы часопіса "Вожык". Выпадак, можна сказаць, унікальны, каб дзіцячая кніжка стала дадаткам да "дарослага" часопіса. Але галоўны рэдактар "Вожыка" В. Блакіт не выпадкова пайшоў насустрач Уладзіміру Іванавічу. Прысутнічае ў творах У. Мацвеенкі для дзяцей і гумар, знаходзіцца месца жарту, досціпу. Аднак не толькі гэта вызначае мастакоўскія вартасці "Азбукі ў загадках". Як вядома, "азбука" — жанр у дзіцячай літаратуры распаўсюджаны. І кожнаму новаму аўтару вельмі цяжка тут сказаць нешта новае, сваё. У. Мацвеенка не паўтарыў іншых. А яшчэ вельмі важна: здолеў у сваёй "азбуцы" выкарыстаць усе літары алфавіта. А гэта вельмі няпроста, трэба мець высокае паэтычнае майстэрства, а яшчэ багатую фантазію, каб не прамінуць і такія літары, як "й", "ы", "ь"...

Нават вопытныя паэты пры складанні азбук часта абыходзяць іх. Паспрабуй падбяры словы, якія б пачыналіся менавіта на гэтыя літары. З літарай "й" У. Мацвеенку было прасцей. Прыгадаў, што дзеці часам кошку называюць імем "Йошка". Астатняе — справа таленту. У іншых жа выпадках выйсце не менш дастойнае. Для прыкладу спашлюся на загадку "Мяккі знак":

**Мяккі знак**
**Сярод літар стаяў,**
**Мяккі знак**
**Перад сном пазяхаў...**
**Ды раптам — бом!**
**Зваліўся гляк,**
**І трапіў ён**
**На мяккі знак.**
**Пабіўся —**
**Не разбіўся**
**І ўголас**
**Пахваліўся:**
**— Пашанцавала**
**Мне, аднак,**
**Што я**
**Упаў на...**

Арыгінальна — нічога не скажаш!

Не менш досціпу, шчодрай фантазіі і ў кнізе "Сябрынка". Было б вельмі добра, калі б дарослыя ў выхаванні дзяцей часцей карысталіся ёю. Справа ў тым, што кнігі, падобнай "Сябрынцы", у беларускай літаратуры да У. Мацвеенкі не было. Пад адной вокладкай сабраны не проста розныя творы — калыханкі, скорагаворкі, акраверш і г. д., але і змешчаны пачатковыя звесткі пра ...літаратуразнаўства. Не здзіўляйцеся — літаратуразнаўства, бо У. Мацвеенка спачатку знаёміць маленькіх чытачоў з адметнасцю пэўнага жанру, а пасля прапануе свае творы.

Першы раздзел — "Што такое вершы?". Калі прыняць пад увагу ўзрост чытача, думаецца, тлумачэнне вычарпальнае: "Верш — гэта невялікі завершаны па думцы і форме твор, напісаны вершаванай мовай. Вершаваныя творы і сам тэрмін з'явіліся ў беларускай літаратуры на самым пачатку XVI стагоддзя ў творчасці Францыска Скарыны. Вершаванай мовай пішуцца вершы, акравершы, паэмы, раманы, казкі, байкі, песні, скорагаворкі, лічылкі і г. д."

У якасці прыкладу аўтар дае колькі твораў гэтага жанру. Вершы з выдумкай, сюжэтныя... Першы ўжо верш "Ласы на каўбасы" пры ўсёй традыцыйнасці сюжэту задавальняе дзіцячую цікаўнасць, прываблівае жартам, пакладзеным у аснову. Канечне ж, гаворка пра Коціка, які аказаўся хітруном. На пытанне: "Дзе ж ты быў, Коцік?", ён адказвае: то "мышку лавіў", то "за рыбкай паляваў" ці нават гаворыць: "Я ледзь птушку не спаймаў"...

Аказалася: вінаваты Коцік, а каб адвесці ад сябе бяду, хітруе:

**— Слухай, Коцік!**
**— Мяў, мяў, мяў!**
**— Што ты тут**
**Навыдумляў!**
**Лепш скажы ты,**
**Калі ласка,**
**Дзе падзелася**
**Каўбаска!**

Умее знайсці У. Мацвеенка адпаведны падыход, каб даходлівасць спалучалася з займальнасцю. "Акраверш — гэта верш, у якім пачатковыя літары вершаваных радкоў, прачытаных зверху ўніз, утвараюць прозвішча альбо імя таго, каму верш прысвячаецца", — тлумачыць ён і ў якасці прыкладу звяртаецца да верша, добра вядомага ўжо не аднаму пакаленню дзяцей:

**Наша Таня горка плача —**
**Закаціўся ў рэчку мячык.**
**— Ціха, Танечка, не плач,**
**Не патоне ў рэчцы мяч.**

І тут жа паказвае, як кожны з гэтых радкоў можа паспрыяць утварэнню акраверша. Калі трошкі словы змяніць, пераставіць, то атрымаецца:

**Таня наша горка плача —**
**Апынуўся ў рэчцы мячык.**
**— Не ўзнімай, Танюша, плач,**
**Я дастану з рэчкі мяч.**

Прачытаем пачатковыя літары зверху ўніз і атрымаецца: Таня.

Шмат можна гаварыць пра арыгінальнасць гэтай кніжкі. Што ні раздзел, дык паэтычнае адкрыццё: "Што такое песні і калыханкі?", "Што такое скорагаворкі?", "Што такое лічылкі?", "Што такое смяшынкі?", "Што такое загадкі?"... Кніжка патрэбная, бо не проста займальная, а далучае дзяцей да літаратуры.

Уладзімір Іванавіч па-ранейшаму працуе плённа, часта выступае ў перыядычным друку. І яго творы заўсёды добра "ўпрыгожваюць" нумар газеты ці часопіса. Бо таленавіта напісаны. Бо закладзена ў іх душа чалавека, які сам любіць літаратуру, паэзію і хоча, каб літаратуру, паэзію палюбілі іншыя. А гэта куды лепш, калі ўсё пачнецца ў як мага раннім узросце.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*СПАДЧЫНА*

# ЯК ЛАСКА МАТЧЫНА



У службовым пакоі старшыні Беларускага саюза фалькларыстаў Васіля Ліцьвінкі побач з партрэтам несмяротнага Рыгора Шырмы, лагодна ўпрыгожанага саматканым ручніком, — Каляндар свят і абрадаў беларусаў. І гэта не выпадкова, бо адраджаць і памнажаць былых традыцый прыгажосць была для мэтра нацыянальнага фальклору адной з галоўных задач жыцця. Таму яна пакладзена і ў аснову дзейнасці Беларускага саюза фалькларыстаў, кіраўнік якога ў свой час абараніў кандыдацкую дысертацыю па фальклорнаму здабытку Р. Шырмы. І, гледзячы на навукова-тэарэтычны прыярытэт, саюз дамагаецца настойлівага і дзейснага ажыццяўлення пераемнасці традыцый, на практыцы даказвае сучасным нашчадкам жыццёвую неабходнасць гэтай высакароднай справы, якая закладзена і ў статуце, і адлюстравана ў яго сімвалічным гербе з сонейкам у абрамленні слоў: "Купала", "Каляда", "Вялікдзень", "Дзяды".

А колькі такіх адвечных свят і абрадаў упрыгожваюць нашу былую і сучасную рэчаіснасць: "Ушэсце", "Прачыста", "Узьвіжанне", "Грамніцы", "Жаніцьба Цярэшкі", "Пахаванне стралы" і нават "Акуліна — задзяры хвост". Што ні свята — непаўторная асаблівасць і прыгажосць народнай духоўнай даўніны.

У спецыяльных зборніках "Беларускі фальклор у сучасных запісах", сярод укладальнікаў якіх — Васіль Ліцьвінка, з найвялікшай дакладнасцю прадстаўлены традыцыйныя жанры, распаўсюджаныя ў розных рэгіёнах рэспублікі: вясновыя, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, жартоўныя, карагодныя, гульнёвыя песні і танцы, калядкі, шчадроўкі, замовы, паданні, балады, казкі, прымаўкі, мудраслоўі, прыпеўкі.

**Ой, іграй, іграй, гармонь,**<br>
**Ой, іграй павесялей,**<br>
**Штобы гэта скучна врэмя**<br>
**Прахадзіла весялей.**

Увесь неацэнны скарб народнай творчасці і складае "рэпертуарную палітру" дзейнасці фальклорнага саюза. І, мабыць, таму яго без перабольшання можна назваць "усебеларускай творчай лабараторыяй фальклорнай спадчыны". Вакол яе гуртуюцца апантаныя носьбіты неўміручых народных традыцый. Да яе цягнуцца фальклорныя суполкі з розных этнічных куткоў рэспублікі. Яна — лідэр і арганізатар народных свят беларускага абрадавага календара. А сам старшыня саюза Васіль Ліцьвінка, акрамя плённай навуковай, вучэбна-педагагічнай і кансультацыйнай работы, яшчэ і нязменны вядучы папулярнай тэлепраграмы "Запрашаем на вячоркі", аўтар мноства артыкулаў у перыядычным друку аб жанравым і стылявым складзе фальклору, аб яго прыхільніках і носьбітах.

У творчай біяграфіі саюза ёсць і яшчэ адна адметная рыса. На яго "базе" створаны нацыянальны фальклорны ансамбль "Вячоркі".

— Асновай яго стварэння была неабходнасць даць узоры аўтэнтычнага выканання беларускіх народных песень, танцаў, найгрышаў, тэатральнага фальклору, — распавядае Васіль Ліцьвінка.

Таму калектыў фарміраваўся з лепшых знаўцаў і выканаўцаў фальклорных здабыткаў. Асновай ансамбля заканамерна стала вакальная група на чале з Ірынай Яцэвіч, інструментальная — Славам Казючыцам, батлейкі — Міколам Басавым. А калі "завербавалі" ў ансамбль Бажэну Грыгор'еву, Дзіну Панасюк, Галіну Вераб'ёву, Міхася Шчэрбача, Барыса Гергалалава з яго жонкай, Яўгена Сафонава і Ніну Мароз, то ансамбль атрымаўся, як кажуць, на славу! Бо для кожнага з іх узнёслым жыццёвым прынцыпам быў і застаецца паэтычны дэвіз:

**Спакон вякоў пяе народ,**<br>
**І песні б'юць жывой крыніцай.**<br>
**Я з плыні тых крыштальных вод**<br>
**Ўсё п'ю — і не напіцца.**

Гэта запаветная мара Васіля Ліцьвінкі аб стварэнні такой групы стала рэальнасцю з прыходам у саюз на пасаду мастацкага кіраўніка знакамітага балетмайстра Мікалая Котава, які шмат гадоў верай і праўдай служыць народнаму мастацтву, нястомна збірае і ўваскрашае ў першароднай красе дыяменты фальклорных узораў, што жывяць нашу культуру і даюць магчымасць людзям напіцца гаючай вады радніковай спадчыны. Акрамя работы на "стацыянары" з калектывам — паўсядзённых рэпетыцый і канцэртнай дзейнасці ў самой сталіцы на святах і юбілейных урачыстасцях, мастацкі кіраўнік плённа шчыруе на фальклорнай ніве і ў раёнах, сваіх падшэфных калектывах народнай творчасці. З яго "падачы" ўпершыню ў рэспубліцы прайшоў на Палессі, на яго роднай Тураўшчыне, конкурс гарманістаў "А гармонік грае, грае..." Зусім нядаўна ён прадстаўляў саюзаўскія "Вячоркі" на Міжнародным фестывалі на Украіне, дзе яны заслужылі самую высокую ўзнагароду.

Сёлетні год для ансамбля абяцае быць яшчэ больш насычаным, бо яго па праву можна назваць Міжнароным годам фальклору. У нас у рэспубліцы адбудзецца фестываль маладзёжных фальклорных калектываў "Стрэчанне-Грамніцы", у Балгарыі — фестываль фальклору "Варна-97", у Італіі — фальклорны фестываль "Інелем", у Ізраілі — фестываль фальклорнага танца, у Канадзе — фальклорны фестываль дзяцей свету, на Тайвані — фальклорны фестываль песні і танца.

Для Беларускага саюза фалькларыстаў і яго ансамбля, у прыватнасці, адкрываецца шырокі далягляд для дэманстрацыі за мяжой нашай цудоўнай і непаўторнай нацыянальнай фальклорнай культуры, аб якой так сардэчна-шчыра і з вялікай павагай сказаў Янка Купала:

**Ад прадзедаў спакон вякоў**<br>
**Нам засталася спадчына;**<br>
**Паміж сваіх і чужакоў**<br>
**Яна мне ласкай матчынай.**

**Адольф СУРЫНОВІЧ,**<br>
**адказны сакратар Беларускага саюза фалькларыстаў.**

# ДЗЕЦІ — ТВОРЦЫ



**Пры мінскім Палацы дзяцей і моладзі працуе кабінет выяўленчага мастацтва, керамікі і скульптуры. У мінулым годзе тут было 18 гурткоў, у якіх займалася амаль 300 дзяцей ва ўзросце ад 5 да 18 гадоў. Тут ёсць гурткі выяўленчага мастацтва, графікі, керамікі і скульптуры. Для вучняў старшых класаў ёсць падрыхтоўчая група, дзе дзяцей рыхтуюць да паступлення ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.**

**За мінулы навучальны год гуртkоўцы ўдзельнічалі больш чым у 10 выставах і конкурсах, многія былі ўзнагароджаны граматамі і каштоўнымі падарункамі (Бабкова Міла, Лянкевіч Ліза, Радзіёнаў Антон, Палукашка Ала, Балуха Ганна, Бурчалава Аляксандра).**

**Летам дзеці са сваімі педагогамі выязджаюць на пленэрныя заняткі на возера Нарач. У верасні кабінет гасцінна расчыніць дзверы для дзяцей, захопленых работай з фарбамі, алоўкамі, глінай, пластылінам.**





**НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік гуртка выяўленчага мастацтва Наталля БЕКІШ у час заняткаў; работы Лізы ЛЯНКЕВІЧ "Беларусачка" і Дзімы ТАМАШУКА "Буслінь край".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## НАЛЯЦЕЛІ ДАЖДЖЫ...

Як і прадказвалі спецыялісты, веснавое бязводдзе на Палессі, калі з берагоў не выходзілі нават звычайна бурныя рэкі, папаўняюць летнія дажджы. На другім тыдні чэрвеня ападкі пашкодзілі шэраг прысядзібных участкаў і калгасных палёў. Паводле інфармацыі, атрыманай карэспандэнтам БЕЛТА ў Гомельскім абласным штабе грамадзянскай абароны, у Жыткавіцкім раёне затоплена больш як 30 населеных пунктаў, у Петрыкаўскім — 120.

Узровень некаторых рэк у Петрыкаўскім раёне ўзнімаўся на 5—6 сантыметраў за суткі.

## БОБА ЗАХОЎВАЕ ВЕРНАСЦЬ

Жыхары Слуцка Людміла і Мікалай Гурыновічы восенню падабралі бусла з пашкоджаным крылом.

Асабліва пасябраваў Боба (так назвалі птушку) з іх дачкой Таняй, якая для бусла-інваліда лавіла нават жабак, рыбак.

Вясной, калі крыло зраслося і на лугах з'явіўся корм, Бобу адпусцілі на волю. Чацвёра сутак птушка не з'яўлялася. Але, відаць, у яе ўзніклі нейкія праблемы з самастойнай здабычай ежы, бо хутка яна вярнулася, па-гаспадарску ўвайшла ў двор і запатрабавала пачастунку.

Цяпер Боба ўдзень корміцца на беразе ракі, а вечарам вяртаецца да Гурыновічаў, напамінаючы ім, што чалавек адказны за тых, каго прыручыў.


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 895. Падпісана да друку 23.6.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.